Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару **15** гр.

№ 19. Вільня, аўторак 18 сьнежня 1928 г. Год II.

**РЭДАКЦЫЯ Й АДМІНІСТРАЦЫЯ:**
Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

# НАРОД

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.**

**ЦАНА АБЕСТАК:**
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце. . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

**Выходзе 4 разы у месяц.**

## За роднаю школу!

Благі й несправядлівы закон аб школах так званых нацыянальных меншасьцеў у Польшчы, г. зн. і аб школах беларускіх, але й яго школьная ўлада не спаўняе. Калі-б гэты закон спаўняўся, дык паводле яго мы мелі-б цяперака ў Заходняй Беларусі звыш 600 школаў беларускіх, а тымчасам маем іх толькі пара дзесяткоў. Нягледзячы, што гэны закон благі і што ён не спаўняецца, мы павінны дамагацца беларускай урадовай школы навет і на аснове гэнага закону. Як кіруючыя нацыяналістычныя польскія дзейнікі пабачаць, што навет на аснове закону, каторы—паводле скрытай думкі ягоных аўтараў—меў якраз ня даць Беларусам роднай школы, Беларусы ўсё-ж ткі гэтаю школу здабываюць, то й самі адмовяцца ад закону, каторы прытым-жа іх компромітуе ў вачох сьвету.

Дзеля таго дамагаймася беларускай урадовай школы, падаючы дэклярацыі. Выкарыстайма яшчэ апошнія два тыдні, што асталіся нам да 31 сьнежня сёлетняга 1928 г.

Паводле закону з дня 31. VII. 1924 г. і распараджэньня да яго з дня 7. I. 1925 г. беларускія **урадовыя** школы могуць адчыняцца ў Віленскім, Навагрудзкім, Палескім вайводзтвах, Горадзенскім і Ваўковыскім павеце вайводзтва Беластоцкага.

Каб мець права на адчыненьне беларускай урадовай школы або ператварэньня існуючай польскай школы ў беларускую, трэба каб бацькі або апякуны з аднаго школьнага абводу падалі школьнаму інспэктару як найбалей дэклярацыеў, а прынамся ня меней як на 40 вучнеў.

Дэклярацыі можна дастаць надрукаваныя ў Беларускім Гаспадарскім Зьвязе або напісаць іх самым гэтак:

### ДЭКЛЯРАЦЫЯ.

Я ніжэй падпісаны(ая) (імя й прозьвішча), грамадзянін(ка) Польскай Рэчыпаспалітай, беларускай нацыянальнасьці, жыхар (назоў вёскі, хутару, места), воласьці (назоў), як бацька—маці—праўны апякун дзіцяці у школьным веку (імя дзіцяці)

на аснове артыкулу ўставы з дня 31. VII. 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школства (Dz. U. R. P. Nr. 79, poz. 766) жадаю ўвядзеньня ў існуючаю—маючаю адчыніцца—публічнаю пачаткаваю школу ў (назоў вёскі, места, местачка) беларускай выкладовай мовы.

Дня . . . 1928 г.

. . . . . . . . . . . . . . .

(подпіс собскай рукою)

Да школьнага Інспэктара ў м. (назоў места).

Заўвага. Непатрэбных слоў пісаць ня трэба, а калі блянкі друкаваныя, дык непатрэбныя словы трэба закасаваць.

Дэкляраціі маюць падаваць бацькі дзяцей, або калі бацькоў няма, дык апякуны. Дэкляраціі можна пісаць пабеларуску. Подпіс на дэкляраціі трэба пасьведчыць у воласьці або судзьдзі ці натаруса, Войт ня мае права адмовіцца ад пасьведчаньня подпісаў, бо гэтым-бы ён нарушыў загад Міністра Нутраных Справаў з дня 12. II. 1925 г. Войт мае пасьведчыць дарма подпісы на дэкляраціях.

Падпісаўшы дэкляраціі на беларускую школу і пасьведчыўшы подпісы ў воласьці, судзьдзі або натаруса, дэкляранты—каб палягчыць сабе працу—няхай ляпей даручаць свае дэкляраціі аднаму чалавеку (паўнамачніку) падаць іх павятоваму школьнаму інспэктару.

Гэт'кі паўнамачнік павінен зрабіць сьпісак бацькоў і апякуноў, што падпісалі й даручылі яму дэкляраціі, дзеля паданьня яго (сьпіску) павятоваму школьнаму інспэктару.

Апрача таго, паўнамачнік павінен ад сябе яшчэ напісаць школьнаму інспэктару гэт'каю заяву:

Пану Школьнаму Інспэктару
ў месьце . . .

Паўнамачніка вёсак . . .
воласьці . . павету . .
. . . . . . . . . .
(імя й прозьвішча),

### ЗАЯВА.

На аснове распараджэньня Міністра Вераў і Публічнай Асьветы з дня 7. I. 1925 г. аб школьнай уставе з дня 31. VII. 1924 г. Я ніжэй падпісаны паўнамачнік сялян вёскі (ці вёсак), воласьці, пры гэтым перасылаю падпісаныя й пасьведчаныя дэкляраціі ў лічбе . . экзэмпляроў на . . . дзяцей у справе беларускае выкладова мовы ў школе ў вёсцы . . . . воласьці.

Адначасна падаю да ведама, што ўсе дэкляранты даручылі мне інформаваць інспэктарат аб патрэбных яму дадатковых дадзеных.

Дня . . 1928—9 г.

. . . . . . . . . .

(подпіс).

Падпісаўшы гэтаю заяву, **паўнамачнік сам** павінен усе даручаныя яму дэкляраціі падаць пав. школ. інспэктару, вымагаючы на ўсё гэта ад інспэктара паквітаваньня.

## Вось як інтэрнацыяналістыя ілгуць насяленьню.

У N 6 газэты беларускіх інтэрнацыяналістых „За працу“ мы прачыталі, што, прамаўляючы ў Сойме проці пропозыцыі пасла Гаўрыліка аб адчыненьні нанова Беларускай Гімназыі ў Радашковічах, „пас. Мацкевіч, манархіст, рэдактар віл. „Słowo“ між іншым падчыркнуў, што закрыцьце Радашкаўскай гімназыі ўваходзіла ў пляны тэй часткі беларускага „грамадзянства“, якая стала на пункт гледжаньня „санацыі“ польска-беларускіх адносінаў“.

У тэй-жа зацемцы „За працу“ казалася, што, прамаўляючы ў Сойме, пас. Валынец, „успомніў вышэйпрыведзеныя словы пас. Мацкевіча; дадаючы, што пад гэтымі беларускімі санатарамі трэба разумець Я. Станкевіча, Р. Астроўскага і іншых“.

Здавалася-б, што маніць аб пасольскіх прамовах у Сойме немагчыма, бо гэтыя прамовы тачнюсенька стэнаграфічна запісуюцца. А тымчасам і тутака пас. Валынец і рэдакцыя „За працу„ нягодна зманілі, навет не чырванеючы. Бо пас. Мацкевіч вось што казаў аб зачыненьню Беларускай Гімназыі ў Радашковічах: „зачыненьне гімназыі ў Радашкавічах уходзіла ў плян тых усіх, каторых я мог-бы назваць прыяцельмі эманцыпацыі (асвабаджэньня—Рэд.) беларускай народнасьці. Хадзіла аб уздараўленьне беларускага сярэдняга школства“.

Як відаць з гэтага, пас. Мацкевіч у сваёй прамове не ўспамінаў жаднай „беларускай санацыі“, бо й нямашака-ж яе, а тымчасам п. Валынец і „За працу“ зманілі (налгалі), каб ашукаць беларускае насяленьне. Калі яны гэтак маняць аб соймавых прамовах паслоў, дык што казаць аб іншых рэчах, маню аб каторых бывае зьбіць цяжка або й немагчыма.

Каб выясьніць гэтаю ману беларускіх інтэрнацыялістых аб зачыненьню Беларускае Гімназыі ў Радашковічах пас. д-р Я. Станкевіч на паседжаньні Сойму 30-га лістападу ўзяў слова дзеля выясьненьня праўды. Д-р. Я. Станкевіч заявіў, што цьверджаньня п. Валынца аб ім, быццам ён (Станкевіч) „дамагаўся зачыненьня Беларускай Гімназыі ў Радашковічах „ёсьць сьвядомай маной (ілжой) беларускаму насяленьню, бо ён (Станкевіч) ня толькі ніколі ня зычыў зачыненьня Беларускае Гімназыі ў Радашковічах, але, наадварот, перад урадовымі дзейнікамі і ў Сойме заўсёды дамагаўся, каб гэтая Гімназыя была пакінена на далейшае быцьцё і дадзена была ёй магчымасьць развою. „Паколькі мне ведама—сказаў д-р Я. Станкевіч—ніхто зь Беларусаў не згаджаўся на зачыненьне Беларускае Гімназыі ў Радашковічах. Калі тое праўда, што, як сказаў пас. Мацкевіч, „прыяцелі эманцыпацыі беларускай народнасьці“ значыць не Беларусы, мелі пляны зачыненьня гімназыі, дык гэныя „прыяцелі“ ня толькі не памаглі Беларусам, але вельмі пашкодзілі, бо ня можна зачыняць там, дзе трэба найбалей адчыняць, пашыраць, бо беларускіх школаў блізу што нямашака“.

## Проці жуліцкага выступленьня.

П. З. Малыніч надрукаваў у воргане віленскіх краёўцаў „Przegląd Wileński“ (N 19) стацьцю пад назовам „Właściwa droga“, у каторай ганіць нягодныя, а часта простэ жуліцкія выступленьні некаторых Беларусаў проці д-ра Я. Станкевіча.

З. Малыніч піша:

„Калі нядаўна д-р. Станкевіч выступіў з навуковай лекцыяй у залі віленскай беларускай гімназыі, часьць разагітаваных вучнеў зрабіла яму варожаю дэмонстрацыю, каторая давяла да прыкрых сцэнаў і за малым ня скончылася трагічне для некалькіх яе ўчасьнікаў, выдаленых пэдагогічнай радаю зь гімназыі і прынятых назад адзіне дзеля супакоеньня“.

„А старшае пакаленьне замест зганіць моладзь і прызваць яе да парадку, заняло становішча ў адносінах да гэтых выступленьнеў прыхільнае і іх апраўдаваючае. Вось да якіх смутных („opłakanych“) рэзультатаў можа давесьці партыйнае раздражненьне і асабістая помста („porachunki“)!“

Як ведама, гэтым „старшым пакаленьням“ ёсьць „Bieł. Krynica“, „Сялянская Ніва“, і розныя „Працы“.

А аўтар думае, што

„Гэты невясёлы стан будзе трываць пэўне датуль, пакуль кадраў беларускай інтэлігенцыі не запоўняць новыя сілы, што цяпер гатуюцца да дзейнай ролі і каторыя падаюць найлепшыя надзеі. Маем наўвеце студэнцкаю моладзь“.

На довад свайго пагляду аутар прыводзе гэт,кія адрыўкі із стацьці студэнта А. Коўзана ў вапошнім нумары „Студэнскай Думкі“:

„Маем ужо даволі ў нашым народзе энэргіі эксплёзыйнай, але не стае нам энэргіі конструкцыйнай. А да гэтага пазвана пераважна ўнівэрсытэцкая моладзь“, „Дзе ў нас цяперака—піша А. Коўзан далей—пачуцьцё пашаны да аўторытэту, да заслугаў, да права? Дзе пашана старшых, калі доля каму дазволіла

стацца ад іх незалежнымі? Дзе ў нас цьвіце харошая краска ўдзячнасьці? Адным словам— дзе ў нас усё тое, што называецца духовай культурай?".

П. З. Малыніч гэтак канчае:

„Большасьць (думаем, што бальшасьці няма, але што такія ёсьць, дык гэта праўда Рэд. „Народу"), беларускіх дзеячоў вырасла ў ватмосфэры грамадзкага радыкалізму із спэцыфічным маскоўскім пахам і хваліцца сваім духовым сваяцтвам з Усходам,—сваім бальшавізмам, калі не грамадзкім і палітычным, дык духовым. Адносіны да стацьцёў (здарэньнеў) у беларускай гімназыі ёсьць гэтага ясным прыкладам".

Зацемім, што „Prz. Wil." ёсьць ворганам віленскіх краёўцаў (а не Палякоў), у ім супрацоўнічаюць такжа Беларусы й Ліцьвіны і ён часта выступае ў вабарону беларускай справы ад польскай захопнасьці. Дзеля сваіх звычайна аб'ектыўных, справядлівых адносінаў да праяваў жыцьця ў Зах. Беларусі „Prz. Wil." карыстаецца заслужонай пашанай у беларускім грамадзянстве, а хіба ніхто так не баіцца нарушыць правілаў дэмократызму „Prz. Wil.", як выдаўцы „Biel. Kr.", каторыя дасталі цяпер ад яго моцнаю й справядліваю нагонку за сваё падзьдзержаньне хуліганства (жуліцтва).

### Выпісавалі ажно з провінцыі!

Калі д-р. Я. Станкевіч быў папрошаны Белар. Студэнцкім Зьвязам чытаць лекцыі ў залі Беларускай Гімназыі ў Вільні, дык кучка віленскіх інтэрнацыяналістых пастанавіла арганізаваць проці жуліцкае (хуліганскае) выступленьне. Не спадзяючыся на свае віленскія „сілы", хоць і ў некалькі разоў павялічаных прынятымі супрацаўнікамі ад Умястоўскага, Вярнікоўскага й Паўлюкевіча, гэная кучка выпісала сабе на памогу дазнаных інтэрнацыяналістых із Вялейкі і Іжанскай вол. Вялейскага пав. Выпісаным памачнікам вярнулі за дарогу і шчодра заплацілі.

Вось чым займаецца пасол Дварчанін і ягоныя сябры і на што яны трацяць грошы! Ня трэба навукі й пасолства, каб гэта рабіць. Такім жуліцтвам патрапіць заняцца якісь п'янчуга—асаднік або напоеныя цёмныя сабакарэзы на сяле.

*Вяляйчанін.*

*Ад Рэдакцыі.* Выпісаныя з провінцыі дзеля скандалу інтэрнацыяналістыя Рэдакцыі ведамы, іх некаторыя супрацаўнікі Рэдакцыі навет асабіста знаюць. Ганьба гэным прадажным жулікам!

## НАВІНЫ.

— *Віленскі каталіцкі арцыбіскуп забараніў ксяндзом належаць да Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі*, аб чым наказалі ўжо польскія газэты. Наіўны быў-бы той, хто-бы думаў, што гэты забарон ськіраваны проці аднае беларускае партыі, а ня проці ўсяго беларускага народу. Віленскі кат. арц. Ялбжыкоўскі ад часу свайго прыезду ў Вільню, усюды, дзе толькі можа, шкодзе Беларусам. Гэтак і цяперака, у той час як ксяндзы маюць права належыць да розных польскіх партыеў, арцыбіскуп забараняе ім належаць да партыі беларускай. Каб гэта было ў іншым краі, дык народ-бы гэт'кага біскупа й дня не цярпеўбы ў сабе. Такі біскуп — гэта воўк у ваўчарніку; справа веры яму ня дарага, яму абы толькі палячыць і рабіць Беларусаў чужымі нявольнікамі.

— *Звальненьне з вастрогу А. Канчэўскага.* Нядаўна звольнены з вастрогу грам. А. Канчэўскі, беларускі коопэратыўны працаўнік. А. Канчэўскі быў засуджаны за належнасьць быццам да комуністычнай партыі; прамучыўся ён у турме 4 гады і выйшаў з падупалым здароўям.

— *Зъезд Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі* быў у Вільні 25 лістападу. Разам із Віленцамі было на ім каля сту чалавекаў. На зьезьдзе чулася вялікае нездаваленьне прадстаўнікоў зь мясцоў з тактыкі віленскага цэнтру, каторы сваёй дзікой грызьнёй зь іншымі беларускімі кірункамі дэморалізуе й разьбівае беларускі рух. З гэтае прычыны можна спадзявацца выступленьня з хадэцыі некаторых яе сяброў, як гэта ўжо зрабіў адзін, каторага ліст тут друкуем.

— *„Новая Зямля"*, кн. II. Выйшла другая кніжка „Новай Зямлі" Я. Коласа. Стар. 66, цана 80 грашоў, зь перасылкай 90 гр.

— *Ці шмат чалавеку зямлі трэба* і іншыя апавяданьні Л. Талстога, выйшла ў перакладзе Улад. Ініцкага. Выданьне Знамяроўскага. 31 стар. малога фармату.

## ЛІСТЫ.

### Да свайго роднага!

Цяжка глядзець, як беларускі народ, асабліва беларуская моладзь палячыцца.

Беларуская моладзь! Ты зусім забываесься, што тваёй маткай ёсьць Маці Беларусь, хоць яна пакрыўджана суседзьмі,—Палякамі, Маскалямі, але дзеля гэтага ты павінна яе яшчэ балей кахаць. Ты бачыш матку хворую, смутную, просячаю твае помачы, а ты цешысься чужым вясельлям, забываючыся аб сваёй роднай Маці Беларусі, каторая просе ў цябе ратунку.

Ці наш народ сьмела па ўрадах і судох, ня высьмеяны, гавора сваёй роднай мовай? Ці ён чуе ў касьцеле ці царкве ад сваіх душпастыраў навуку выкладанаю ягонай мовай ці дадаткавыя набожнасьці?!

Браты Беларусы! Калі-ж гэта мы будзем цешыцца сваёй роднай Бацькаўшчынай, што енчыць у сваім горы. Калі гэта мы без перашкодаў вольныя выступім із сваімі штандарамі па нашых родных местах і местачках пры гуках народных маршаў із песьняй на вуснах, што разыходзілася-б па ўсіх нашых землях, злучаных у вадну вялікаю цэласьць?

Аргапізуймася як могучы ў свае народныя арганізацыі, як Беларускі Гаспадарскі Зьвяз і іншыя, дамагаймася свае роднае школы, каб нашыя дзеці не калечыліся чужой мовай і каб умела, як належыцца, кахаць свой край беларускі.

Чытайма й пашырайма ў сваёй роднай мове газэты й кніжкі, каторых у нас ёсьць даволі, пашырайма сваю беларускаю сьвядомасьць паміж сваіх братоў Беларусаў, жывучых яшчэ ў глыбокай цемры, сейма згоду й міласьць паміж свайго народу, тады зьбяром і мы вялікі ўраджай свайго дабрабыту, свабоды і нацыянальнага адраджэньня.

*Ашмянчук.*

12—XI—28.

### Трэба свая школа.

*Славенск, Забрэжкай вол., Валож. п.* У Славенску перад вайною былі дзьве пачатковыя школы— хлапецкая й дзявоцкая, а цяпер нямашака жаднай. Людзі ўжо некалькі год дамагаюцца беларускай урадовай школы, але, як і ў іншых мясцох, яе нам не даюць. Дык надумаліся сёлета, каб пры помачы Беларускага Гаспадарскага Зьвязу закласьці ў сябе ў Славенску беларускаю прыватнаю школу. Хоць ужо й пазнавата, але лепей пазьней дзяцём пачаць вучыцца, чымся зусім ня вучыцца цэлаю зіму.

*Шчырак.*

### Стараста хоча падзяліць Вішнеўскаю воласьць Вялейскага пав.

У Вялейскім старастве, як кажуць, не бяз стараньнеў жойдзішнага войта Гайлерта, паўстаў проект

---

j=й (моj=мой, jіх=йіх або іх).

ЯКУБ КОЛАС (К. Міцкевіч).

## Новая зямля. 19)

ПОЭМА.

(Глянь № 18 „Народу").

XXII.

### НА ГЛУШЦОВЫХ ТОКАХ.

Адбыў своj час панура-люты.
Дзянёк патрошку прыбывае,
Прыветнеj сонеjка бліскае,
І рве рачулка свае путы.
Jідзі, зіма, jідзі ў дарогу:
Праjшоў твоj час, дзякаваць Богу!
Пабач, старая: там, у полі,
Чарнеюць леташнія ролі!
А ўзгоркі, вунь, паразумнелі,
Бо вельмі значна палыселі.
А лес, глядзі, які вясёлы!
І дуб сьмяецца, хоць і голы.
Паслухаj добра: чуеш песьні?
Цяпер яны ўжо не заўчэсьні,
Ужо бо сонеjка праменьні
Гатуюць шлюбныя адзеньні
І ткуць карону дарагую
Вянчаць зямельку-маладую...
Пара, зіма, табе складацца
І ўпроч з кудзеляj выбірацца!
І вось у дзень адзін прыўдалы
Загаманілі перавалы.
І гоман, сьпеў і шум усюды,
Як-бы ў цымбалікі і ў дуды
Загралі тысячы музыкаў,
Бы jіх на баль тут хто заклікаў.
Jідзе вясна з пудоўнаj ліраj;
На звон яе зьляцеўся выраj,
І жыцьце ўсёды вынікае,
І птушка[97]) песьню зачынае.
—Вясна павінна быць раджаjна:
Вада шуміць штось нязвычаjна,
Як гром далёкі—густа, глуха
І так прыемна[98]) неjк для вуха—
Міхась, вярнуўшыся з абходу,
Адзначваў добраю прыгоду.
А Костусь дома ня ўтрывае,
Паслухаць шум тоj выбягае;
І праўда: гук такі цікавы...
Як мілы гэтыя праявы!
Аб чым гудзе вада так важна,
Так мілагучна, так працяжна?
Напэўна гэтая вадзіца
Мабыць якая чараўніца,
Калі наўперад многа знае
І пра раджаjнасьць нешта бае.
І навет тата даў ёj веры.
Празь дзень прышоў наказ з кватэры,
Якога бацька спадзяваўся,
Каб у Камлішчы ён зьбіраўся,
Бо ўжо глушцы затакавалі,
А jіх прад сьвятам палявалі;
Але ўпярод, да паляваньня,
У змрок вячэрні і ў сьвітаньне
Туды на подслухі хадзілі,
Глушцоў шукалі і сачылі,
Пакуль паны не прыяжджалі
Два буданы ў бары стаялі:
Адзін—салаш яловы, просты,
Другі драўляны і з памостам;
І вось, як панства наяжджала,
То тут яно і начавала.
Лясьнік у будцы сваёj гнуўся,
Хоць да агню ён больш гарнуўся;
Але і тут было ня міла:
Адзін бок мерз, другі смаліла.
Міхал забраўся, апрануўся
І ў лес памалу[99]) пацягнуўся:
Ў лясох сьнягі яшчэ ляжалі,
Ды ўжо з узгоркаў саступалі
І больш тулілісь па лагчынах
Ды па цяністых раўчавінах,
Зіма і тут зьбірала клумкі.
Міхал ішоў, зь jім jшлі і думкі,
А зь jімі вобразы ўставалі
І ў сэрцы водгук выклікалі.
І часта хваля абурэньня,
Глухі протэст нездаваленьня
Яго ахваціць і ўскалыша
І гневу знак ў душы напіша.
Паном пацеха і забава,
І ў jіх гусьце гэта справа;
А ты, як Каін, валачыся,
У будане па тыднях гніся
Ды часам пану не ўнаровіш
І „пся крэў", „дурня" часта зловіш,
З апошніх слоў цябе аблае,
А то і горш яшчэ трапляе.
Была-б свая зямля і хата!...
Ды будзь ты тры разы праклята
І служба панская, і ласка,
І доля вечная падпаска!
І многа розных дум устане,
Пакуль будан тоj зь лесу гляне
Між буданоў агонь палае,
Міхала Пальчык там чакае;
З другога боку jдзе Гавака,
Стары аб'езчык і служака;
Сядзіць Абрыцкі на калодзе
І грэе ногі, люльку курыць,
Зачаў гаворку, балагурыць
Аб рознаj рознасьці, прыгодзе.
Чаго ён толькі ні ўспамяне!
Каму ў душу ён ні загляне!
І абгаворыць, пасьмяецца;
Паном таксама дастаецца,
Бо пан Абрыцкі, сказаць сьмела,
Між jімі церся жыцьце цэла;
Быў на Палесьсі, на Валыні—
Дзе толькі доля ні закіне!
Сядзеў зь jім поруч Дзямідовіч,
З другога боку—Астаховіч,
Ужо лясьнікі немаладыя,
І хлопцы сталыя, такія,
Зь якімі можна выпіць чарку,
Таксама j езьдзіць па jіх карку,
Чаго Абрыцкі ня чураўся.
Па службе выjдзе папушчэньне
Ці так ня важнае здарэньне,
Абрыцкі пэўна ўжо падкусіць,
Данесьці пану аб тым мусіць
Ды ад сябе яшчэ прыбавіць,
Каб чалавека абясславіць;
Дык на яго ня мелі вока
І зь jім трымаліся далёка,
Хоць гэта ў вочы не казалі.
Ды лясьнікі здарэньне знялі,
Калі Абрыцкі абмахнуўся
І пад Пшавару падвярнуўся.
Пшавара быў лясьнік сярдзіты,
Апроч таго, ня лыкам шыты:
Шырок, плячыст, як дуб стары,
І зь jім да трох не гавары!
І дужы быў ён не па меры.
Ён быў з Абрыцкім на кватэры,
І вось які быў тут учынак:
Пшавараў конь каля драбінак
Стаяў і хрумстаў сабе сена,
Сянцо мурожнае, бы пена.
Вярхом Абрыцкі прыяжджае,
Сюды свajго каня стаўляе.
Пшавара гэта заўважыў.
—О, каб яго пярун распляжыў!
Які-то гад, які вужака,
Які-то кручаны сабака
Пусьціў каня да маjго воза?
—Якая страшная пагроза!
І што за тон такі мужыцкі?—
Азваўся з гонарам Абрыцкі:—
Ну, я пусьціў, то што тут будзе?
Табе што з гэтага прыбудзе?—
Ўськіпеў Пшавара ў момант вока;

падзяліць суседнюю Вішнеўскаю воласьць, прылучыўшы 6 грамадаў ейных да воласьці Жойдзішнай а 2 грамады да воласьці Іжанскай.

Вішнеўская воласьць—гэта адна з найлепшых волосьцеў Вялейскага пав. Насяленьне ў ёй каля 9-ёх тысячаў, у той час як у Жойдзішнай—6 тысячаў, ў Іжанскай—4 тысячы.

Нягледзячы на тое, што Вішнеўская воласьць была зусім чыста вайною зруйнавана, валасная гаспадарка ў Вішневе вядзецца добра і буджэт валасны зраўнаважаны. Само местачка Вішнева ў цэнтры воласьці, бо найдалей з аднага й другога боку да яго 15 клм., а каб падзяліць, дык да валасных урадаў у Жойдзішкі і Іжу было-б шмат далей.

Дзеля ўсяго гэтага грамадзяне Вішнеўскай вол. проці падзелу яе. Вішнеўская валасная рада тройчы адмовілася падпісаць згоду на гэты падзел. Ад валаснй рады езьдзіла дэлегацыя да віленскага ваяводы й міністэрства, дамагаючыся захаваць воласьць на далей.

*Вішнеўскі.*

*Ад Рэдакцыі.* Пажадана, каб адміністрацыйная ўлада лічылася із зычэньням самога насяленьня захаваць сваю воласьць. Матывы выказаныя нашым корэспондэнтам вельмі важныя. Апрача таго, як мы даведаліся ад іншых людзёў Вішнеўскай воласьці, насяленьне гэтае воласьці ня хоча падзелу свае воласьці яшчэ й дзеля таго, што яму прыйшлося-б плаціць за благую гаспадарку дагэтулешняй адміністрацыі й рады Жойдзішнай воласьці. Вялейскае староства зусім без патрэбы сваім проектам вызвала вострае нездаваленьне ўсяе Вішнеўскае воласьці, дагэтуль найсупакайнейшай у Вялейшчыне.

*Рэдакцыя „Народу“.*

### Бедным загадчык дварамі кн. Чартарыйскага ня хоча прадаваць зямлі.

У Валожынскім павеце ў двары Юганова, належачым да кн. Чартарыйскага робіцца прыватная парцэляцыя зямлі. Ведама, што кожны малазямельны селянін хоча сабе прыкупіць зямлі. На гэта ён мае права, а навет і павіннасьць з увагі на сябе й сваіх дзяцей. Дык няма дзіва, што, як даведаліся аб парцэляцыі, суседнія сяляне кінуліся купляць зямлю. Але загадчык дварамі кн. Чартарыйскага п. Жміеўскі прадае дзялянкі зямлі багатшым паўназямельным а бяднейшым малазямельным адмовіўся прадаць.

Бяднейшыя зьвярнуліся із жальбаю да Акружной Земскай Комісыі ў Горадне і адтуль прыйшла рада прадаваць дзялянкі зямлі наўперад малазямельным. Але пан Жміеўскі гэнае рады ня слухае і, як і раней, зь бяднейшымі на'т і гаварыць ня хоча. А тымчасам ня толькі спагад бедным, але таксама ўвагі гаспадарскія й социяльныя павінны былі-б прымусіць прадаваць зямлю наўперад бедным, малазямельным гаспадаром. Дзеля таго павінны былі-б земскія ўрады ўважней аднесьціся да паступкаў п. Жміеўскага. Мясцоваму насяленьню здаецца, што навет сам кн. Чартарыйскі павінен справу пакіраваць на карысьць малазямельных. Гэтыя апошнія хацелі ўжо зьвярнуцца ў гэтай справе да кн. Чартарыйскага але ня ведаюць ягонага адрэсу.

*Валожынец.*

## Із Заходняй Беларусі.

### Да школы ў Панізьзю.

Пасьля даўгіх стараньнеў (ад пачатку жніўня сёлета) напасьледак Беларускі Гаспадарскі Зьвяз дастаў концэсыю на Беларускаю прыватнаю школу ў Панізьзю Валожынскага пав. Перашкоды, што рабіліся ўладаю пры дставаньню концэсыі, яшчэ лішні раз паказуюць, якія благія адносіны ўлады да беларускай асьветы.

Але дастаць концэсыю, яшчэ ня знача адчыніць школу, бо інспэктар яшчэ павінен зацьвердзіць вучыцялёў. Няго-ж інспэктар і цяперака будзе наўмысьля адцягаваць справу, вызываючы гэтым справядлівае абурэньне насяленьня?

### Працэс 22 у Маладэчне.

На процэсе ў Маладэчне 22 падсудных, абвінаваченых у належнасьці да комуністычнай партыі Заходняй Беларусі 7 сьнежня засуджаны: Антон Міцька, Ян Матурэвіч, Язэп Сьвірыд і Васіль Божка — на 7 год цяжкой турмы; Паўла Карповіч, Уладзімер Карсак, Ян Ліс, Сьцяпан Бабёр і Андрэй Сабіла — 6 год цяжкой турмы; М. Штэйнберг—на 5 год; Міхал Карповіч, Мацей Габруковіч, Сымон Казёл, Васіль Моніт, Кірыла Сабіла, Юльлян Страх, Юрка й Юстын Жукоўскія, Мацей Сідаровіч, Антон Кульба, Зыдар Карсак і Ян Цюховіч—на 4 гады.

Іншых падсудных, а паймення: Яна Шымана, Паўлы Ліса, Піліпа Казуру, Рыгора Тукайлу і Рубіна Левіна—суд апраўдаў.

Усім засуджаным суд залічыў у лік кары арышт ад 13-ёх да 17-ёх месяцаў, але нікому, апрача нявыраслага Юркі Жукоўскага, катораму даравана палова кары, ня зьменшана кара на аснове амністыі.

### Бяда ад неўраджаю.

З прычыны неўраджаю сёлета ў Навагрэдзкім і Віленскім вайводзтве і асабліва ў паўночных паветах Віленшчыны цяпер ужо адчуваецца вялікая галіта. Урад пацяшае помачай, але пакуль што з гэтай помачай ня прыходзіць а тымчасам, нямаючы чым карміць, людзі збываюць за бэсцэн жывёлу. З пагалелага насяленьня навет дагэтуль пастарому спаганяюць падаткі.

## Беларусы у Чэхаславаччыне.

(Корэспондэнцыя).

IV годні Зьезд Аб'яднаньня Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыеў (А. Б. С. А.) адбыўся ў Празе 16-га лістападу сёлета ў Народным доме на Вінаградах. Лічба прысутных дэлегатаў была звыш 20-ёх. На Зьезьдзе было таксама шмат гасьцёў як ад студэнтаў іншых народнасьцеў так і ад старшага беларускага грамадзянства.

У ўступной прамове пры адчыненьню ўрачыстай часьці Зьезду старшыня В. Лаўскі падчыркнуў мінулае А.Б.С.А. і затрымаўся над ягоным сучасным заданьням.

Ад асобных арганізацыеў выступілі з прывітаньнямі: М. Чарнецкі (Вольная Грамада), д-р. М. Ільляшэвіч (Крывіцкае Культурнае Т-ва Фр. Скарыны), М. Абрамчык (ад Падзябрадзкіх студэнтаў) ды іншыя. Віталі Зьезд также грам. В. Захарка і М. Варшынін. Асабліва чула Зьезд аднёсься да прамовы прадстаўніка ўкраінскага студэнцтва Аралецкага (старшыня ЦСУС-а).

У працоўнай часьці Зьезду, досыць ажыўленай, пасьля перагляду дзейнасьці прэзыдыуму і справаздачы рэвізыйнай комісыі быў абраны новы прэзыдыум у гэткім складзе: старшыня—ізноў В. Лаўскі, сябры др. Грыб, Хв. Клаўсуць, Гірыс і Грышкевіч; кандыдаты—Ю. Бурак і А. Вітушка. У рэвізыйнаю комісыю абраны: А. Ворса, М. Чарнецкі і Я. Сак. Між іншым разглядалася на зьездзе пытаньне пераносу цэнтралі АБСА. ў край, пасланьне дэлегатаў на зьезд СІЕ. ў Будапэшт ды інш.

Дзеля таго, што АБСА. цяпер блізу што адзіная арганізацыя беларуская, каторая выступае на

---

Дуга была тут недалёка—
Ляжала тут-жа пад рукою—
І за Абрыцкім ён з дугою!
Абрыцкі прэ на ўсе лапаткі,
Бяжыць, як можа, без аглядкі,
Але Пшавара даганяе,
У ход дугу сваю пускае.
Абрыцкі—некуды дзявацца—
Спыніўся, кінуўся кусацца!
Пшавара і гэты бој прыјмае:
Схапіў Абрыцкага, трымае,
Зубамі сам дае ён здачы
І навет гыркнуў пасабаччы:
—Калі кусацца, дык кусацца!—
Было з чаго тут пасьміяцца!...
Тут сам падлоўчы паказаўся,
Ад сьмеху ён чуць не качаўся.
На ўсіх пазыцыях пабіты,
Абрыцкі збавіў тон сярдзіты
І просіць грознага Пшавару:
— Пусьці, братко, панёс я кару!—
Міхал з усімі павітаўся,
Таму, другому засьміяўся,
Јіх жарты жартам адбівае
І стражнікоў разьвесяляе.
—А што, Міхале, мілы браце,—
Абрыцкі кажа:—пэўна ў хаце
Было-б, тэж, лепш, як у будане?
—Няхај тут јіх зямля апране:
Паноў, глушцоў і јінша ліха,
Тады-б на сьвеце было ціха,—
Сказаў Міхал нібы гняўліва:—
Вось возьмем стрэльбы, појдзем жыва
Ды хоць у смак папастраляем
І ўсіх глушцоў паразганяем!
—А ты забыўся,—тэж, каханы,
Выпадак быў неспадзяваны,
Як наш Вярыга сьвераноўскі
Вёў на глушца пастражнікоўскі
Якраз лясьнічага самога:
Тры крокі скокне ён, нябога,
Ды спыніцца і спыніць пана;
Глушца-ж таго і нячувана.
І вось да хвоји даскакалі,
Але глушца там не засталі.
Стаяць Вярыга і лясьнічы,
— А дзе-ж глушэц, пан паляўнічы?
— Вось тут пяяў, панок, учора,
Ды перастаў на маё гора.—
Вярыга вочы апускае,
Лясьнічы воўкам пазірае
І—плясь у морду нечакана!
Вось як Вярыга падвёў пана!
— Ну, што-ж? патрапіў на такога;
А каб наскочыў на другога,
Сказаць, хоць-бы і на Пшавару:
Задаў-бы ён там пану жару!—
Гавака важна аразваўся;
Абрыцкі толькі аблізаўся,
А лясьнікі зарагаталі
І тым Гаваку падтрымалі.
— Ну, што, панове ягамосьці:
А ці ня час рушыць у госьці?—
Абрыцкі погляд уськідае
І шчыльна люльку накладае.
—Што-ж! трэба рушыцца--цямнее:
Якраз зьлятаюцца, зладзеји!..
Эх, брат, наняўся—як прадаўся!—
Сказаў Міхал і зам падняўся;
За јім другія паўставалі
І ў цёмны лес павандравалі.
І разышліся на ўсе бокі
Сачыць глушчоў, шукаць јіх токі.
Міхал з дарогі зварачае
І далеј, глыбеј забірае.
Вось ён развaжліва спыніўся,
Прыслухаўся і прытаjіўся;
Яшчэ павольненка праходзіць,
Наглядным[100]) вокам лес абводзіць.
Стаяць вакол маўкліва хвоји,
Бы служкі ў панскім дзесь пакоји;
І дрэмлюць чорныя яліны,
І моўкне ў лесе сьпеў птушыны,
І толькі дрозд высьвістваў штучна,
Як на клярнэце, мілагучна;
Ды змоўк і ён, і ўсё зьнямела.
У небе зорачка нясьмела
Над гэтым лесам цемраністым
Зірнула вокам прамяністым.
А лес маўчыць, глухі, таемны.
Міхал—сам слых, але дарэмны
Вушэј чульлівых натужэньні:
Нідзе ні зыку—шарасьценьня,
І толькі шум, бы кім насланы,
Бы тыя гулкія арганы,
Ў вушшу стаjіць, грыміць і звоніць
І штось няўцямнае гамоніць.
„Чусь сю! чуг-гі“ — дзесь зык падаўся.
Міхал як-бы чаго спужаўся,
І сэрца ў јім мацнеј забілась,
І радасьць нејкая зьявілась.
Глушэц чым далеј, то ўсё болеј
Дзесь на суку за тоўстаj хвояj
Расьсеўся важна і балбоча,
А як сьпявае—плющчыць вочы,
Тады нічога ён ня чуе;
Але ня цягам ён такуе,
А робіць часта перарывы,
Тады ўжо чутак ён на дзіва,
Тады замры і стој зацяты;
Пачне пяяць—хоць бі з гарматы.
Міхал стаjіць, штось разважае,
Відаць, ён месца замячае,
А кашаль, падла, так і душыць.
Міхал наш з токаў хоча зрушыць,
Ісьці ў будан, тој, ды ўнікае:
Другі глушэц ток зачынае.
Перачакаўшы з паўгадзіны,
Міхал павольненка, як можна,
Пакінуў токі; асьцярожна
Выходзіць зноў на пуцявіны.
Цяпер на збор і ён шыбуе,
Чагось вясёлы, ног ня чуе;
А лясьнікі ўжо ўсе у зборы.
Јідзе гаворка сярод бору
І сьмех і жарты, навет кпіны.
Агонь бадај да палавіны
Высокіх хвояў дасягае.
Абрыцкі рапарты прыјмае,
Хто чуў глушца, якія токі,
Адлегласьць мерае на крокі,
А Дзямідовіч люльку смаліць,
Ніяк глушцоў сваjіх ня хваліць.
—Няма нідзе, папрападалі.
А мо' за зіму паздыхалі,—
Гаворыць ён, рукој махае.
Яму Міхал напамінае,
Як летась ён усім на дзіва
Упаляваў заjца шчасьліва,
Калі тој здуру памыліўся
І сам у яму заваліўся.
І ўсе сьміялісь, рагаталі
І з тога заjца жартавалі.
— А што-ж тут вельмі выпірацца?
І з-за чаго ўжо так старацца?
Брашы ўсю ноч хоць, як сабака—
Адна і ласка і падзяка.
Міхал занадта ўжо служака,
А медалёў не начапілі,
За глупства ў лыжцы-б утапілі.
— Ты праўду кажаш, пан Амброжа,
Ды јначаj наш Міхал ня можа:
Натура ўжо яго такая!—
І Астахновіч зазначае.
Вясёлы сьмех і жарты, спорка—
Вядзецца доўгая гаворка.
Будан жыве, будан гуторыць,
Аж покі сон усіх ня зморыць.

міжнародным форуме, трэба яе ўсімі сіламі падзьдзержаваць.

*Прысутны студэнт.*

Прага.

## Ліст у Рэдакцыю.

**У Рэдакцыю газэты „Народ“.**

Паважаны Грамадзяніне Рэдактару!

Не адмоўцеся надрукаваці ў Вашай газэце гэт'кае:

З прычыны благіх, несправядлівых адносінаў Цэнтр. Комітэту Беларускай Хрысьцянскай Дэмакрацыі да Беларускай Сялянскай Партыі і да Пасла Д-ра Я. Станкевіча, гэтым заяўляю аб сваім выхадзе зь Беларускай Хрысьцянскай Дэмакрацыі.

*Янка Кулікові.*

26. XI. 1928.

## Дзівосы й сьмяхоты.

### „Bieł. Krynica“ зьмяншае лічбу Беларусаў.

У перадавіцы № 53 „Bieł. Kr.“ чытаем: „Польшча 2 міліёны Беларусаў у працягу 10-летняга свайго існаваньня ўсьцяж корміць абяцанкамі“. Што корме абяцанкамі—гэта праўда, але-ж ня 2, а ня ляпей 3 міл. Беларусаў, аб гэтым „Bieł. Kr.“ пара ўжо даўно ведаць.

### „Беларускаму Дню“ ўсё мала.

У перадавіцы № 33 польскага часапісу ў беларускай мове „Бел. Дня“ знаходзім: „Ад сядняшняга дня станьма да працы над узмацаваньням вяковай сувязі, існуючай паміж абодвымі народамі“ г. значыцца народам беларускім і польскім. Мы ведаем, што над умацаваньням гэтай „сувязі“ „працуюць“, калечачы нашых дзяцей, тысячы польскіх вучыцялёў у накіненых нам сілком польскіх школах, „працуюць“ на гэтым асаднікі, паны, армія польскіх ксяндзоў пад загадам чарнасоценца арц. Ялбжыкоўскага і інш., а „Бел. Дню“ Умястоўскага ўсяго гэтага мала.

Запраўды нягодная служба ягоная!

I запраўды Фр. Умястоўскі знаходзе новыя спосабы ўзмацняць гэнаю „сувязь“; у тым-жа артыкуле чытаем: „на нашых землях стварыўся нейкі новы псыхолёгічны тып, як рэзультат беларуска-польскага скрыжаваныя, тып, ведамы ў нас пад назовам тутэйшага“.

Несьвядомыя Беларусы называлі, а часткава й цяперака называюць, сябе „тутэйшымі“, бо ня ведаюць, што яны належаць да беларускага народу. Гэтак-жа могуць назваць сябе і сьвядомыя Беларусы, каб паказаць, што яны не асаднікі якія, а здаўна жывуць у сваёй Бацькаўшчыне Беларусі. Вось гэтых усіх людзёў п. Умястоўскі хацеў-бы загнаць у польскі бок, фальшыва робячы зь іх беларуска-польскі тып „як рэзультат беларуска-польскага скрыжаваньня“, каторага ніколі ня было.

### Каго бароне „Bieł. Krynica“ і хто ейны супрацаўнік?

Хто ня знае ў Ашмяне Дуброўскага і ня ведае, чым ён займаецца? У прыдатку да свайго занятку Дуброўскі выробляе яшчэ іншыя рэчы, ня ўжываныя паміж людзьмі. Такія штукі як абмазаньне... сваім собскім калам—дзьвярэй свайму праціўніку фотографу ў Ашмяне, належаць да даволі звычайных у Дуброўскага.

Даволі каму новаму зьявіцца ў Ашмяну, як Дуброўскі, відавочна ў сувязі із сваёй профэсыяй, бяжыць да яго і стараецца ўсё вынюхаць. Дзеля таго, калі адноўчы пас. др. Я. Станкевіч, прыехаўшы ў Ашмяну, зайшоўся да грам. В. Казлоўскага, прыбег туды зараз і Дуброўскі. Ведаючы хто гэта, Я. Станкевіч і гаспадар, загадалі яму высьці вон. Дзеля таго, калі пасьлей др. Я. Станкевіч вышаў ад В. Казлоўскага, Дуброўскі, хочучы яго фальшыва ўдаць уладзе, пачаў крычаць на вуліцы „нелегальнаю зборку рабіў!“ і да г. пад.

Той-жа Дуброўскі разам із іншым „прыяцелям“ хадэцыі, каторага 25. XI. 28 ня прынялі на зьезд хадэцыі ў Вільні, напісалі ў N 53 „Bieł. Kr.“ корэспондэнцыю (глянь у канцы) перакруціўшы гэнае здарэньне. „Bieł. Kr.“ ведала, хто такі Дуброўскі, бо пастыдалася надрукаваць ягонага прозьвішча, а паставіла толькі літару *Д*, але ўсё-ж такі брыду ягонаю надрукавала.

Дык вось каго бароне „Bieł. Kr.“ і хто ейны супроцоўнік і прыяцель!

## Свая пошта.

**Я. Макрэцкі.** Падпіску 6 зал. дасталі.

**А. Міхальчук.** Пакуль ня прышліце грошаў, датуль комплектаў „Народу“ і „Нашай Бацькаўшчыны“ не пашлем. Адрэс „Беларускай Зарніцы“: Вільня, Летняя 7.

## Паведамленьне.

Падаецца да ведама, што падчас калядніх сьвятаў гр. Ст. Станкевіч прачытае гэткія лекцыі на правінцыі:

1. Дня 26—XII—28, а г. 6 вечарам у в. Арляняты Кроўскае вол. на тэму „Галоўныя этапы белаууская адраджэньня“.

2. Дня 28—XII—28, а г. 6 веч. у в. Арлянятах на тэму; „Што трэба бачыць у роднай літэратуры і яе значэньне“.

3. Дня 20—XII—28, а г. 6 веч. у в. Пятровінах, Гальшанскай вол. на тэму: „Галоўныя этапы беларускага адраджэньня“.

4. Дня 30—XII—28, а г. 2 па паўдні у м. Баруны на тэму: „Галоўныя этапы беларускага адраджэньня“.

5. Дня 1—I—1929, а г. 4 у вёсцы Гінаўцы, Куцяўскае вол. на тэму: „Галоўныя этапы беларускага адраджэньня“.

## Абестка.

У Рэестр Сябрын (Коопэратываў) Акружнога Суду ў Вільні дня 26. X. 1928 г. пад N 697 зроблены гэткі ўпіс:

R. H. Sp. I.—697. Фірма: „Сябрына Земляробска-гандлёвая ў Валожыне—Колас—з адказнасьцяй агранічанай“. Сяліба ў Валожыне. Ададказнасьць сяброў за забавязаньні сябрыны заяўленымі паямі і апрача таго дзесяцькратная ў вадносінах да заяўленагапаю. Мэтаю сябрыны ёсьць падняцьце дабрабыту сваіх сяброў вядзеньням супольнага прадпрыемства цы іх судзеяньнеў культ. развою. Дзеля дапяцьця гэтата сябрына арганізуе й вядзе ўсялякага роду установы гандлёвыя й вырабныя, а асабліва: купляе, выробляе й прадае прадметы й артыкулы, патрэбныя ў земляробскай гаспадарцы, ды купляе, перарабляе й прадае земляробскія прадукты і судзеіць маральне й матар'яльне ў культурна-асьветнай працы із згуртаваньнямі дробных земляробаў.

Пай — 12 залат., плачаных ратамі: 3 зал. пры ўступленьню, а рэшта трыма ратамі ў працягу году. У ўрад (праўленьне) абраны: Юры Мандрык зь вёскі Бандары, Хведар Махнач з Валожына і Міхал Шакун зь в. Капусьціна. Час быцьця сябрыны неагранічаны. Часапіс, назначаны да абестак—„Народ“. Год справаздаўчы каляндарны. Сяброў Ураду 3; заявы ад імені сябрыны падпісуюць два сябры ўраду пад фірмоваю пячаткаю. Зацьверджаньня Нагляднай Рады вымагаюць пастановы ўраду ў справах датычачых: нажываньня, збываньня альбо абцяжаньня ляжачай маемасьці, адчыненьня адзьдзелаў і выробных установаў, памяшчэньні вольных ад звароту фундушаў і рабеньня пазычак. Правілы аб ліквідацы згодныя з адпаведнымі правіламі ўставы аб сябрынах з дня 29 кастрычніка 1920 г.





*Прачытаўшы, не зьністажай, але дай прачытаць другому.*

Выдавецтва Беларускае Сялянскае Партыі. Вільня, Друкарня „РАХ“, Сьвята-Ігнатаўская вул. № 5. Рэдактар Б. Станкевіч.